# МІНСКАЯ ПРАЎДА

Газета заснавана 1 лістапада 1950 года | Субота, 25 чэрвеня 1994 года | № 66 (10766) | Цана 100 руб.


## Прэзідэнцкі марафон: працяг будзе

Бясспрэчным лідэрам у прэзідэнцкай гонцы ў Беларусі пасля галасавання, якое завяршылася 23 чэрвеня ў 10 гадзін вечара, стаў Аляксандр Лукашэнка. Ён адзін набраў амаль столькі ж галасоў, колькі пяць прэтэндэнтаў, разам узятыя. У бліжэйшага саперніка — прэм'ера Вячаслава Кебіча — ён выйграў паўтара мільёна галасоў і, нарэшце, Лукашэнка быў першым ва ўсіх без выключэння шасці абласцях і горадзе Мінску.

Такім чынам, прэзідэнцкая гонка ўступіла ў сваю апошнюю фазу. Старшыня Цэнтрвыбаркома Аляксандр Абрамовіч не выключыў, што другі тур галасавання можа адбыцца ўжо 10 ліпеня. На гэты раз у бюлетэні будуць унесены толькі два кандыдаты, набраўшыя найбольшую колькасць галасоў, — Аляксандр Лукашэнка і Вячаслаў Кебіч. Вядома, калі ніхто з іх не здыме свае кандыдатуры перад галасаваннем у другім туры.

А цяпер прасочым хроніку дня, які ўжо ўвайшоў у гісторыю Рэспублікі Беларусь як дзень выбараў першага Прэзідэнта незалежнай дзяржавы.

Выканаць свой грамадзянскі абавязак і аддаць галасы за свайго кандыдата выбаршчыкі мелі магчымасць з сямі гадзін. Перад імі адчынілі свае дзверы больш за сем тысяч выбарчых участкаў. Насуперак апасенням, што многія, магчыма, не прыйдуць у гэты дзень на выбарчыя ўчасткі, ужо з самай раніцы практычна ва ўсіх рэгіёнах назіралася даволі высокая актыўнасць выбаршчыкаў.

У цэлым па рэспубліцы да 11 гадзін раніцы прынялі ўдзел у прэзідэнцкіх выбарах 2,5 мільёна грамадзян, або 33 працэнты ад колькасці жыхароў Беларусі, унесеных у спісы для тайнага галасавання. Да гэтага часу поўнасцю прагаласавалі выбаршчыкі 68 участкаў. Самую большую актыўнасць прадэманстравалі жыхары Брэсцкай вобласці (39,1 працэнта), самую меншую — мінчане (20 працэнтаў). А к 15 гадзінам ужо стала ясна: выбары першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь адбыліся!

Як паведамілі карэспандэнту Белінфарма ў Цэнтральнай камісіі, да гэтага часу выбарчыя бюлетэні запоўнілі больш як 63 працэнты грамадзян, унесеных у спісы для тайнага галасавання. У Брэсцкай вобласці на гэты час у галасаванні ўдзельнічала 70,3 працэнта грамадзян, у Віцебскай — 64,4, у Гродзенскай — 63,8, у Магілёўскай — 64,4, у Мінскай — 65, у горадзе Мінску — 53 працэнты выбаршчыкаў.

Карэспандэнтам Белінфарма ўдалося 23 чэрвеня пагутарыць з усімі шасцю кандыдатамі ў Прэзідэнты, якія галасавалі на сваіх выбарчых участках, і задаць ім пытанні, што датычаць будучыні Беларусі.

Васіль Новікаў: «Нягледзячы на тое, што цяперашнія рэаліі не радасныя, а ў рэспубліцы татальны крызіс, я спадзяюся, што наш разважлівы, працавіты і гераічны народ усё ж знойдзе выхад. І калі першы Прэзідэнт будзе абапірацца на гэты народ, мы выйдзем з крызісу. Удзел у гэтай выбарчай гонцы Партыя камуністаў ужо расцэньвае як перамогу. Мы будзем задаволены любым вынікам галасавання, паколькі дасягнулі пастаўленай мэты: згуртавалі партыю, праверылі нашы структуры, заручыліся большай колькасцю прыхільнікаў. Гэта дапаможа адразу ўключыцца ў другую »гонку" — выбары Вярхоўнага Савета і мясцовыя органы ўлады. Так што ў нас бяспройгрышны варыянт".

Станіслаў Шушкевіч: «Я спадзяюся, што ў нашага народа ёсць будучыня, што бог дасць яму азарэнне і мудрасць, дасць шанц зрабіць правільны выбар. Ад гэтага выбару будзе залежаць, ці застанецца нашаму працавітаму народу ў цяперашнім зачараваным коле, або ён змога вырвацца з яго і зажыць, як усе цывілізаваныя людзі. Я веру ў свой народ, веру ў Беларусь».

Аляксандр Дубко выказаў упэўненасць у тым, што Беларусь стане працвітаючай краінай. Для гэтага, на яго думку, трэба аднавіць эканамічныя сувязі з Расіяй, Украінай, Казахстанам, аддаць прыярытэт сельскай гаспадарцы, ісці да рэгулюемага рынку. Дзяржава, лічыць кандыдат, павінна забяспечыць грамадзянам бясплатнае медыцынскае абслугоўванне, адукацыю, дапамагаць ветэранам, пенсіянерам, інвалідам. Кожны павінен зарабляць столькі, каб утрымліваць сям'ю, пабудаваць дом, набыць машыну. Нармальнае развіццё дзяржавы магчымае толькі ва ўмовах строгай законнасці.

Зянон Пазняк у кароткім інтэрв'ю карэспандэнту Белінфарма на выбарчым участку, дзе ён галасаваў, заявіў наступнае: «Я думаю, што сёння мы яшчэ не закладваем будучыню сваёй дзяржавы. Гэта проста чарговы этап барацьбы з мафіяй».

Вячаслаў Кебіч, які галасаваў у гэты дзень на выбарчым участку №1, адказваючы на пытанне, якой бачыць кандыдат у Прэзідэнты будучыню Беларусі, адказаў, што яго жыццёвае крэда — добрае жыццё людзей. Гаворачы аб праведзенай напярэдадні сустрэчы з Прэзідэнтам Расіі Барысам Ельцыным, прэм'ер-міністр адзначыў, што на ёй размова ішла аб паглыбленні эканамічных адносін паміж Расіяй і Беларуссю. Станоўчым вынікам з'явілася дагаворанасць аб зняцці ўмоў, сфармуляваных у пятым артыкуле Дагавора аб аб'яднанні грашовых сістэм Беларусі і Расіі, на якіх раней настойваў расійскі бок, і што статус Нацыянальнага банка Беларусі застанецца ранейшым. Гэта значыць, што ўмешвацца ў прынятую Канстытуцыю не прыйдзецца.

Карэспандэнту Белінфарма ўдалося звязацца і з Аляксандрам Лукашэнкам, які ў гэты дзень галасаваў у вёсцы Рыжкавічы Шклоўскага раёна. Кандыдат у прэзідэнты заявіў: «Я хачу бачыць беларускі народ з усмешкай на вуснах, хачу адвесці яго і ўсю дзяржаву хоць бы на паўкрока ад той бездані, над якой мы цяпер усе вісім».

У дзень выбараў на выбарчых участках прысутнічалі прадстаўнікі грамадскіх арганізацый, палітычных рухаў і партый. За ходам галасавання ў рэспубліцы назіралі больш за сто замежных наглядальнікаў. Яны прадстаўлялі раду буйных міжнародных арганізацый, у тым ліку ААН, НБСЕ, Еўрапарламент, Еўрапейскі інстытут СМІ, Інстытут свабодных прафсаюзаў, а таксама замежныя пасольствы, акрэдытаваныя ў Мінску. Прадстаўнічая дэлегацыя прыбыла ад Дзяржаўнай думы і Цэнтральнай выбарчай камісіі Расіі, дзяржаў СНД і Балтыі.

Паводле інфармацыі Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, сур'ёзных канфліктаў, якія патрабуюць аператыўнага ўмяшання Цэнтрвыбаркома, зафіксавана не было.

Удзел у выбарах першага Прэзідэнта Беларусі прынялі 23 чэрвеня многія грамадзяне рэспублікі, якія знаходзяцца за мяжой. У 12 краінах, дзе пастаянна пражываюць, знаходзяцца беларускія грамадзяне, былі ўтвораны выбарчыя ўчасткі. Праўда, па стану на раніцу 24 чэрвеня Цэнтральная камісія пакуль не мела даных аб ходзе галасавання «замежных» беларусаў.

Позна вечарам стала вядома, што ў дзень выбараў першага Прэзідэнта ўдзел у галасаванні ўвогуле прынялі 5.870.055 выбаршчыкаў, або 79 працэнтаў грамадзян, унесеных у спісы для тайнага галасавання.

*БЕЛІНФАРМ.*

ФАКТЫ • ПАДЗЕІ • АРГУМЕНТЫ • МЕРКАВАННІ

## Не пад сілу

Грошы, грошы, дзе вас узяць? Менавіта з-за іх адсутнасці і згортваюцца аб'ёмы капітальнага будаўніцтва ў вобласці. Нават і тое, што запланавана, выконваецца з горам папалам.

Скажам, за кошт цэнтралізаваных капітальных укладанняў, рэспубліканскага, мясцовага і інвестыцыйнага фондаў, а таксама ўласных сродкаў прадпрыемстваў сёлета мяркуецца пабудаваць 382,2 тысячы квадратных метраў агульнай жылой плошчы.

Для параўнання: летась планавалася здаць 573.078 тысяч квадратных метраў, а фактычна выйшлі толькі на 421.355.

Як бачым, розніца паміж леташнім і сёлетнім узроўнямі даволі значная. Аднак справіцца і з меншымі аб'ёмамі поўнасцю — для падрадчыкаў праблема, аб чым сведчаць вынікі пяці месяцаў. Было ўведзена 34,6 тысячы квадратных метраў, ці 9 працэнтаў гадавога плана.

Для жыллёва-будаўнічых кааператываў прадугледжана ўвесці 146,4 тысячы квадратных метраў жылля супраць 72.594-х, фактычна здадзеных летась. Рост выкліканы тым, што зараз аб'ёмы жыллёвага будаўніцтва за кошт дзяржавы зніжаюцца, а ўпор робіцца на сродкі насельніцтва. Але ж тады варта паскараць і тэмпы выканання падрадных работ. Вось гэтага якраз і не назіраецца. Інакш чым вытлумачыць той факт, што за пяць месяцаў увялі для ЖБК толькі 11,1 тысячы квадратных метраў — 8 працэнтаў запланаванага. Разлік на штурм у канцы года?

Марудна ўзводзіцца 60-кватэрны дом у Салігорску. З-за адсутнасці сродкаў застаўся не закончаным і не прыняў малышоў дзіцячы сад Барысаўскай фабрыкі піяніна. Сарваны тэрмін уводу агульнаадукацыйнай школы на 1.251 вучнёўскае месца ў горадзе Заслаўе...

Затарможанасць назіраецца і на некаторых іншых аб'ектах.

*Фаіна ЭЛЕНТУХ, супрацоўніца аблупраўлення статыстыкі.*

Яшчэ як след не выраслі травы на пашы, а павышаць прадуктыўнасць малочнага статка трэба. У калгасе "Беларусь" Чэрвеньскага раёна на асобных участках зялёная маса скормліваецца парцыённа, з дапамогай электрапастуха. Надоі рэзка павялічыліся.

**На здымку:** пастух Анатоль **КВЯТКОЎСКІ** ў гаспадарцы працуе больш як 25 гадоў.

*Фота Анатоля БАСАВА.*

## ГАВОРАЦЬ І ПАКАЗВАЮЦЬ "СТОЎБЦЫ"

У Стоўбцах пачаў працаваць канал мясцовага тэлебачання.

Парупіліся аб гэтым супрацоўнікі вытворча-камерцыйнага аб"яднання «Аўтаагратэхсервіс», якое дзейнічае пры размешчанай у гэтым горадзе рэспубліканскай гандлёвай фірме «Аграмашзапчастка». Тэлестудыя паспяхова прайшла рэгістрацыю ў Міністэрстве культуры і друку Беларусі.

— Нашы праграмы змогуць глядзець не толькі гараджане, але і жыхары навакольных вёсак, — акрэсліў перспектывы мясцовай тэлестудыі адзін з супрацоўнікаў «Аўтаагратэхсервіса» Віктар Агароднік. — Ахоп эфірнай дзейнасцю роўны радыусу 30-ці кіламетраў. Гэта значная частка тэрыторыі раёна.

Што датычыць камерцыйнага боку распачатай у Стоўбцах тэлесправы, то для простага чалавека яна будзе практычна бясплатная — неабходна толькі набыць антэну для прыёму дэцыметровых хваль. Асноўны фінансіст мясцовага тэлебачання — аб"яднанне-заснавальнік, астатнюю частку грошай мяркуецца атрымліваць ад рэкламы і камерцыйнай дзейнасці самой студыі. Што тычыцца рэпертуарнай праграмы гэтага канала, то яна будзе заснавана на перадачах спадарожнікавага тэлебачання з уключэннем у яе «касетных» мастацкіх фільмаў, тэлесерыялаў і блока мясцовых навін.

*Сяргей ГАЛОЎКА.*

## З НАДЗЕЯЙ НА РАЗВАЖНЫ СЭНС

На 11 гадзін раніцы ў Вілейцы прагаласавала трэць выбаршчыкаў. Аб гэтым паведаміла сакратар выбарчай камісіі Любоў Міцкевіч. Яна адзначыла высокую актыўнасць людзей, тлумачачы яе як напалам передвыбарнай барацьбы, так і ўздзеяннем сродкаў масавай інфармацыі.

Выбарчы ўчастак № 1 размясціўся ў актавай зале ГПТВ-48. Кветкі, музыка, буфет з шырокім выбарам прахаладжальных і моцных напіткаў — традыцыйная атрыбутыка застойных часоў захавана. Але калі раней абыходзіліся адной-дзвюма кабінамі для галасавання, то сёння іх чатыры. І каму-нікаму даводзіцца пачакаць, пакуль яны вызваляцца.

Чым жа кіруюцца людзі, выбіраючы першага Прэзідэнта ў гісторыі дзяржавы? Пенсіянер Ілья Солдак, які доўгія гады кіраваў аддзелам народнай адукацыі Вілейскага райвыканкома, спадзяецца на матэрыяльную падтрымку пажылых людзей, а яшчэ — на аднаўленне ў поўным аб'ёме той базы народнай адукацыі, якая існавала ў былым СССР.

— Я думаю, калі памяняецца кіраўніцтва, то памяняюцца і адносіны да рабочага чалавека, — з гэтай думкай прыйшоў на ўчастак Уладзімір Бубен. Ён працуе на вілейскім заводзе «Зеніт». Сёння прадпрыемства ледзьве зводзіць канцы з канцамі. Адміністрацыя ідзе на экстранныя меры, каб забяспечыць людзям хоць нейкі пражытачны мінімум.

— Я галасаваў за Пазняка, — не хавае мой субяседнік сваіх палітычных сімпатый.

З сынам, нявесткай і маленькай унучкай прыйшла на ўчастак медсястра Цэнтральнай раённай бальніцы Настасся Субач. Прыйшла, як яна кажа, з апошняй надзеяй: можа, усё ж з'явіцца ў дзяржаве разумны палітык, які наладзіць для людзей нармальнае жыццё.

Гэтая надзея свяцілася ў вачах многіх, хто браў у рукі выбарчыя бюлетэні.

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

## ИТАК, ПРОЙДЕН ПЕРВЫЙ ЭТАП

Вчера состоялась пресс-конференция по итогам первого тура выборов Президента Республики Беларусь. Ее провел председатель Центризбиркома А.М.Абрамович. Он отметил, что голосование прошло достаточно организованно, при высокой активности граждан, слаженной и четкой работе всех участковых комиссий.

В голосовании приняло участие 78,7% избирателей республики, внесенных в соответствующие списки. Они высказались по всем шести кандидатурам. Данные поступали всю прошлую ночь.

Теперь в течение двух-трех дней в районах пройдет их обработка, будут изучены заявления и жалобы, составлены протоколы, и все материалы будут направлены в областные комиссии, а затем — в Центральную.

Что касается итогов голосования, то было подчеркнуто: данные сугубо предварительные, неофициальные. Голоса распределились следующим образом: А.И.Дубко — 6%, В.Ф.Кебич — 17,4%, А.Г.Лукашенко — 45,1%, В.Н.Новиков — 4,6%, З.С.Позняк — 12,9%, С.С.Шушкевич — 9,9%.

Значительных изменений относительно этих данных, как заявили на пресс-конференции, не ожидается. Так что мы выходим на второй этап выборов Президента.

## НАГЛЯДАЛЬНІКІ САЧЫЛІ СТРОГА

Выбарчы ўчастак №41 размясціўся ў памяшканні Барысаўскага палітэхнікума. Галасаванне было арганізавана ў прасторнай спартыўнай зале. Па алфавітных паказальніках лёгка зарыентавацца, да якога століка трэба падыходзіць па бюлетэнь. Але выдаюць іх члены камісіі толькі пасля праверкі пашпарта ці іншага дакумента, які пацвярджае асобу.

— Выбары праходзяць у поўнай адпаведнасці з законам, — зазначае старшыня ўчастковай камісіі В.Драніца. — За ходам галасавання сочаць наглядальнікі ад БНФ і ад працоўнага калектыву завода медпрэпаратаў. Ніякіх заўваг з іх боку пакуль не паступіла. Актыўнасць выбаршчыкаў сёння большая, чым на папярэдніх. Відаць, людзі добра разумеюць, што ў многім вырашаецца лёс нашага далейшага жыцця.

Прадстаўнікі ад БНФ Соф"я Русецкая і намеснік старшыні савета прадпрыемства завода медпрэпаратаў Наталля Паўловіч пагадзіліся з меркаваннем старшыні камісіі.

На суседніх выбарчых участках №№42 і 43 таксама прысутнічалі прадстаўнікі ад БНФ Іван Сакалоў і Уладзімір Самцоў. І з іх боку не было ніякіх папрокаў у адрас членаў участковых камісій.

Сустрэўшы даўнюю знаёмую А.Баско, пацікавіўся, за каго яна аддала свой голас.

— Я галасавала за Кебіча, а муж — за Лукашэнку, — сказала Антаніна Канстанцінаўна.

Ну што ж, у кожнага быў выбар, і ён зрабіў яго. А ўвогуле, на ўчастках давялося гутарыць з прыхільнікамі ўсіх шасці кандыдатаў, і кожны з іх лічыць, што менавіта яго прэтэндэнт можа вывесці рэспубліку з крызісу.

*Мікалай ЧАЛЕЙ.*

## У ЧАКАННІ ПАРАДКУ

Наглядальнікі ад Партыі камуністаў Беларусі і Беларускага народнага фронту, якія прысутнічалі на Заходнім выбарчым участку № 18 г.Маладзечна, адзначылі зладжаную і заканадаўча правільную работу выбарчай камісіі. Як вынік, ужо ў першай палавіне дня прагаласавала больш як 50 працэнтаў выбаршчыкаў.

Дзелячыся сваімі думкамі наконт прэтэндэнтаў, людзі на першы план ставілі патрабаванні навядзення парадку ў дзяржаве, ліквідацыі злачыннасці ва ўсіх яе праявах. Сімпатыі большасці схіляліся ў бок Пазняка і Лукашэнкі. Гэта паказалі і папярэднія вынікі галасавання. Падлік галасоў сведчыць, што найбольшай папулярнасцю ў маладзечанцаў карыстаецца лідэр БНФ. Высокі рэйтынг у Лукашэнкі і Шушкевіча.

Старшыня гарадской выбарчай камісіі Вікенцій Сірота падкрэсліў высокую актыўнасць гараджан: удзел у галасаванні прынялі больш за 80 працэнтаў тых, хто быў уключаны ў спісы выбаршчыкаў.

*Вольга КАЖАМЯКІНА.*

## ПА БЮЛЕТЭНІ БЫЛА ЧАРГА

На выбарчым участку №16 г.Салігорска была чарга. Як да членаў камісіі, так і ў кабіны.

— Такой актыўнасці выбаршчыкаў у апошнія гады я і не прыпомню, — гаворыць старшыня выбарчай камісіі Ф.І.Клішэвіч. — Да 10 гадзін раніцы прагаласаваў кожны трэці выбаршчык. Непаразуменняў не было.

Амаль на ўсіх гарадскіх выбарчых участках знаходзіліся наглядальнікі ад грамадскіх фарміраванняў, працоўных калектываў. Прыязджалі амерыканскія, польскія журналісты. Парушэнняў пры галасаванні не выяўлена. На ўчасткі з"явілася 77 працэнтаў выбаршчыкаў. З іх 46 працэнтаў хацелі б бачыць Прэзідэнтам Беларусі Лукашэнку. 21 працэнт набраў Пазняк, 12 — Шушкевіч, 9 працэнтаў — Кебіч.

Яшчэ большую актыўнасць прадэманстравалі выбаршчыкі Салігорскага раёна. На ўчасткі з"явілася амаль 90 працэнтаў вяскоўцаў. І тут па колькасці галасоў на першым месцы Лукашэнка — 62 працэнты. На другім Дубко — 14. Па сем працэнтаў галасоў набралі Пазняк і Кебіч.

*Уладзімір БЫЧЭНЯ.*

## НЕ СПАДЗЯВАЛІСЯ НА АКТЫЎНАСЦЬ

Напярэдадні выбараў многія несвіжане выказвалі думку, што людзям нагнала аскому агітацыя /а часта бесталковая/ за кандыдатаў у Прэзідэнты, што на выбарчыя ўчасткі прыйдуць далёка не ўсе. Але сам ход выбараў паказаў, што, наадварот, насельніцтву не абыякава, хто будзе займаць пасаду першага Прэзідэнта Беларусі.

Выбарчы ўчастак №4 знаходзіцца ў СШ №1. Гутару з выбаршчыкамі.

**Леанід ЛЯБЕЦКІ, будаўнік:** Надакучыла няўпэўненасць у заўтрашнім дні. Хочацца, каб Прэзідэнт быў смелы і рашучы. Навёў парадак.

**Марыя ХЛАПІЦКАЯ, ветэран-педагог:** Беларускі народ працавіты. Калі першы Прэзідэнт здолее павесці справу, дык мы хутка выйдзем на дарогу эканамічнага прагрэсу.

**Галіна МЯДЗВЕЦКАЯ, медсястра:** Спадзяюся, што Прэзідэнт ушчыльную зоймецца «раскарчоўкай» мафіі і карупцыі. Народ бяднее, а дзялкі ад бізнесу ўсё дабро грабуць у свае рукі.

Не, раўнадушных на выбарах не было. Ужо да 19.00 прагаласавала амаль 80 працэнтаў выбаршчыкаў. Паўсюдна назіраўся парадак і арганізаванасць. Раён наведалі наглядальнікі з Францыі, Польшчы, Літвы. Яны пабывалі на асобных выбарчых участках, гутарылі з членамі камісій, выбаршчыкамі. Ніякіх заўваг не зрабілі.

Позняй ноччу сталі вядомы вынікі галасавання ў раёне. Ніхто з шасці прэтэндэнтаў не набраў больш як 50 працэнтаў галасоў. У Лукашэнкі іх сама больш — 43,8 працэнта.

*Канстанцін ПРЫЁМКА.*

## ПРЕДСТАВИТЕЛИ ФИРМЫ АБСОЛЮТНО ПРАВЫ

Павильон "Средства защиты растений" на столичной выставке "Белагро-94" особенно привлекает посетителей-земледельцев. Тревога за будущий урожай при дефиците в коллективных и фермерских хозяйствах средств защиты усиливает головную боль рачительных крестьян. А на выставке, где их предлагала германская фирма "АгрЭво", есть все необходимое для сохранения посевов в самом лучшем виде. Впрочем, специалистам хорошо знакомы эти препараты еще по предыдущим связям с известными на агрорынке фирмами "Шеринг" и "Хёхст", которые являются надежными партнерами "АгрЭво".

Фирма "АгрЭво" производит следующие препараты: инсектицид "децис", закупающийся в Беларуси на протяжении ряда лет; фунгициды для защиты картофеля от фитофтороза "дитан М-45" и "брестанид", для зерновых культур — "спортак" и "дерозал"; гербициды для возделывания сахарной, столовой и кормовой свеклы "бетанал АМ", "бетанал-прогресс АМ", "фуроре-супер", гербициды "ареолон", "пума-супер", "гродил", позволяющие решать проблемы защиты зерновых как от широколистных, так и злаковых сорняков, и многие другие препараты.

Большинство из этих средств защиты новой фирмы они уже использовали на своих полях с большим успехом. В прошлом году, к примеру, в экспериментальном хозяйстве "Анополь" Минского района применение фунгицидов "АгрЭвы" против фитофтороза картофеля позволило сохранить плантации зелеными почти до конца августа. Кстати, в условиях влажного прошлогоднего лета эта болезнь унесла с собой немало урожая клубней в целом по республике. К сожалению, при нынешней погоде существует еще большая угроза. Отсюда неприкрытая тревога в глазах аграрников у павильона "Средства защиты растений". А дело в самом малом — найти не самую большую сумму денег на приобретение надежных и безвредных препаратов фирмы "АгрЭво", которая готова предоставить их любому потребителю на самых выгодных условиях.

Об этом сообщили журналистам представители фирмы Владимир Мокроус и Александр Константинович. Кстати, Александр Альбертович Константинович пояснил: "Мы готовы поставлять аграрникам средства защиты даже за белорусские расчетные билеты, разумеется, по валютному курсу, и по бартеру. Фирма, впрочем, не против выделить кредиты на приобретение гербицидов".

Похоже, что условия вполне приемлемы даже при дефиците денег на счетах. Приобретенные средства защиты окупятся весомым урожаем, как считают те же представители "АгрЭво".

И здесь они абсолютно правы.

*Виктор САХАНКОВ.*

## ЛІДЭРЫ ГУБЛЯЮЦЬ АЧКІ

Пасля чатырох тураў першынства вобласці па футболу з максімальнай колькасцю ачкоў лідзіраваў «Верас» з калгаса «17 верасня» Нясвіжскага раёна. Толькі адно ачко ўступала яму каманда «Белыя Росы» з Першай мінскай птушкафабрыкі. І вось у пятым туры лідэры страцілі ачкі, «Верас» у гасцях згуляў унічыю — 0:0 з мар"інагорскім «Бетпластам», а птушкаводы ў Старобіне прайгралі «Аўтамабілісту» — 1:3.

Першую перамогу атрымаў вілейскі «Камунальнік». З буйным вынікам — 9:1 ён нанёс паражэнне старадарожскай «Арэсе». Гульня паміж валожынскай «Іслаччу» і футбалістамі «Стара-Барысава» закончылася ўнічыю — 2:2. Пятае паражэнне запар атрымаў уздзенскі «Нёман», на гэты раз на сваім полі ад «Маналіта» — 0:6.

Лідзіруе пасля пяці тураў «Верас» — 9 ачкоў. Сем ачкоў маюць «Белыя Росы».

*/Наш кар./.*



*На плошчы Незалежнасці беларускай сталіцы адбылася ўрачыстая цырымонія пасвячэння ў афіцэры і выпуску выхаванцаў ваенна-навучальных устаноў Рэспублікі Беларусь.*

*Тут, у сэрцы суверэннай дзяржавы, атрымалі дыпломы і знакі аб заканчэнні вучобы маладыя лейтэнанты з мінскіх Вышэйшага ваеннага інжынернага і Вышэйшага ваеннага каманднага вучылішчаў. Упершыню ва ўрачыстасцях, якія становяцца ўжо традыцыйнымі, прынялі ўдзел выпускнікі Мінскага ваеннага суворaўскага вучылішча. Літаральна з рук у рукі лейтэнанты перадалі эстафету служэння Айчыне сваёй юнай змене — афіцэрам XXI стагоддзя. Тым больш сімвалічна, што цырыманіял праходзіў напярэдадні святкавання 50-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.*

*НА ЗДЫМКАХ: у час цырыманіялу.*

Фота Анатоля БАСАВА.



*Нелегко далась советскому народу победа над германским фашизмом. Готовясь к нападению на СССР, Гитлер делал ставку не только на свои мощные вооруженные силы, но и на так называемую "пятую колонну". В этих целях в спешном порядке создавалась разветвленная сеть разведывательных и контрразведывательных органов, велись поиски шпионских кадров.*

# НА ГЛАВНОМ НАПРАВЛЕНИИ

## действовали чекисты и на фронтах, и в тылу врага

ОРГАНЫ госбезопасности СССР вступили в борьбу с немецко-фашистской разведкой еще задолго до того, как был приведен в полное действие план "Барбаросса".

Чекисты Белоруссии уже в 1940 году задержали в приграничных районах Брестской и бывшей Белостокской областей десятки агентов и эмиссаров вражеских разведок. У некоторых из них были обнаружены таблетки, содержащие сильный концентрат сибирской язвы. Но уже первые месяцы оборонительных боев показали, что органы КГБ сумели обеспечить сохранность важнейших секретов о военно-экономическом потенциале СССР, количестве соединений Красной Армии и их вооружении, новых образцах советской военной техники (танки Т-34, легендарные "катюши" и др.).

Немецкая разведка не смогла проникнуть ни в один крупный штаб нашей армии. Она располагала весьма неточными данными о количестве соединений Красной Армии, развернутых на пространстве от Балтийского до Черного моря, и допустила грубейшие просчеты при оценке боеспособности Вооруженных Сил СССР и морально-политического единства советского народа. Все это явилось одной из причин провала гитлеровского плана "Барбаросса".

Тяжелая угроза, нависшая над нашей Родиной, поставила перед территориальными органами госбезопасности, в том числе и чекистами Белоруссии, задачу коренного изменения форм и методов оперативной и боевой деятельности применительно к условиям военной обстановки.

Бывший Наркомат госбезопасности Белоруссии в крайне сжатые сроки,в июне-сентябре 1941 года, сформировал и перебросил в тыл врага несколько отрядов и оперативных групп. Они нанесли ощутимые удары по врагу на его коммуникациях. Собрали важную разведывательную информацию о 35 немецких аэродромах и посадочных площадках, 21 артиллерийском складе, 12 штабах воинских соединений и других объектах противника в районе Минска, Орши, Борисова, Бобруйска, Пинска, Слуцка, Речицы и других населенных пунктов.

Непосредственно в тылу противника при помощи подпольных обкомов и райкомов партии были созданы разведывательно-диверсионные группы. Все они были хорошо вооружены, соответственно экипированы и большинство из них имели надежные средства связи со своим центром. Возглавили группы Шпилевой, Михайлашев, Метелкин, Качуевский, Зебницкий и другие.

УСПЕХИ советских войск в летней кампании 1943 года вызвали активизацию боевых действий партизан, быстрый рост партизанского движения. В то же время обстановка в оккупированных районах значительно осложнилась тем, что немецкое командование усилило разведывательную и контрразведывательную работу, охрану коммуникаций, увеличило число полицейских и других карательных частей, в широких масштабах начало практиковать блокировку партизанских отрядов и соединений с целью уничтожения. В борьбе с партизанами все чаще стали применяться крупные подразделения немецкой армии. Это объясняется тем, что немецкое командование, подготавливая наступление в районе Курска, стремилось обезопасить наикратчайшие транспортные коммуникации, связывающие войска с фашистским рейхом.

Все это требовало активизации разведывательно-диверсионной и боевой деятельности в тылу противника, дальнейшего укрепления взаимодействия органов госбезопасности и Белорусского штаба партизанского движения, партизанских соединений и чекистских групп, действовавших на оккупированной территории.

С учетом этого к концу 1943 года в тылу противника были созданы оперативно-чекистские центры в Витебской, Минской, Гомельской, Могилевской, Полесской, Вилейской, Барановичской, Пинской и Брестской областях, а в начале 1944 года и в Белостокской области во главе с заместителями начальников областных управлений наркомата госбезопасности.

ОТДЕЛЬНЫЕ разведывательно-диверсионные группы за время нахождения в тылу противника превратились в партизанские отряды численностью до 200 и более человек, а отряды чекистов Прудникова, Ваупшасова и других послужили базой для формирования партизанских соединений.

Самоотверженно действовал личный состав отряда "Храбрецы", который возглавлял капитан, А.М.Рабцевич.

Одной из наиболее уникальных и важных операций проведенных бойцами отряда, является подрыв 5 июня 1943 года эшелона на участке железной дороги между станциями Красный Берег и Жлобин.

В результате взрыва были уничтожены паровоз и 11 вагонов. Во время возникшей паники удалось вынести с места диверсии баллон с газом, противоипритную накидку, противогаз нового образца и дегазационные вещества. Эти трофеи были доставлены на базу отряда, а 7 июля 1943 года отправлены в Москву. Они позволили Центру сделать вывод о подготовке гитлеровцев к использованию химического оружия. Через дипломатические каналы акция противника была сорвана.

31 июля 1943 года связным отряда Федором Крыловичем были установлены две магнитные мины к цистернам эшелона с горючим, который стоял на железнодорожной станции Осиповичи.

А.М.Рабцевич позже записал в дневнике: "Уничтожено 4 эшелона, из них два с горючим, один — с боевой техникой и один — с продовольствием. Пожаром уничтожены станционные постройки. Станция не работала двое суток".

Позднее выяснилось, что с горюче-смазочными материалами был один эшелон, два — с боеприпасами и один, как свидетельствовал уже после войны немецкий генерал Миддельдорф, "чрезвычайно ценный эшелон с танками "Тигр".

Яркую страницу в летопись всенародной борьбы с фашистскими оккупантами вписал отряд "Местные" под руководством С.А.Ваупшасова. Личным составом и связным отряда подорвано 187 эшелонов врага с живой силой, техникой и боеприпасами, совершены 52 крупные диверсии, в том числе взрыв столовой СД в Минске.

Отряд С.А. Ваупшасова поддерживал тесный контакт со многими подпольными группами в Минске. О том, насколько широкими и устойчивыми были позиции отряда в городе, говорит тот факт, что в Минске отряд имел 120 конспиративных квартир.

В РЕЗУЛЬТАТЕ диверсионно-боевой деятельности чекистских отрядов и групп противнику был нанесен значительный урон в живой силе, боевой технике и вооружении. Особенно чувствительны для противника были диверсии на железнодорожном транспорте. Количество пущенных под откос воинских составов постоянно увеличивалось. Если в 1941 г. их было всего лишь 2, то в 1942 г. — 202, в 1943 г. — 317, а за 7 месяцев 1944 г. — 585.

Вместе с партизанскими соединениями чекистские отряды и группы приняли активное участие в операции по срыву железнодорожных перевозок фашистов, вошедшей в историю под названием "рельсовая война".

О ее значении бывший офицер оперативного отдела группы армий "Центр" профессор Гахенгольц в книге "Решающие сражения 2-й мировой войны" пишет: "Начало разгрома группы армий "Центра" было положено действиями 240 тысяч партизан Белоруссии, которые за одну ночь (19—20 июня) взорвали все железные дороги в 10 тысячах мест... и парализовали транспортную систему".

ВАЖНЕЙШЕЕ место в деятельности оперативных групп органов госбезопасности Белоруссии занимала разведывательная работа.

Так, весной 1943 года оперативная группа "Победители" сумела добыть важные данные о переброске противником на Курское направление нескольких пехотных и танковых дивизий из Франции, Африки и из-под Ленинграда. Эти и другие разведывательные сведения сыграли определенную роль в раскрытии планов фашистского командования на лето 1943 года.

Чекистской группой "Бывалые" с помощью двух советских патриотов был захвачен сотрудник разведывательного отряда штаба военно-воздушных сил Центрального фронта германской армии Карл Круг, который сообщил о предполагаемом наступлении немцев в районе Орловско-Курской дуги, дислокации 32 аэродромов, системе их противовоздушной обороны, расположении складов с авиабомбами и другие сведения. Круг был доставлен самолетом в Москву.

Наряду с разведывательной работой важное место в деятельности чекистов Белоруссии занимала борьба с вражеской разведкой и ее агентурой. Для решения этой задачи чекисты внедрялись в разведывательные, контрразведывательные органы и различные карательные формирования противника. Это давало возможность выявлять вражеских агентов, подготавливаемых к заброске или заброшенных в тыл Советской Армии и в партизанские соединения.

В 1941—1944 годах ими выявлены 22 разведывательно-диверсионные школы "Абвера". В том числе в Борисове, Минске, Витебске, Полоцке, Гомеле, Могилеве, Бобруйске, м. Тростенец Минской области и Осинторфе Витебской области, разоблачено несколько сот агентов немецких разведывательных органов.

Многие участники чекистских групп за проявленный героизм были награждены орденами и медалями. 13 чекистам — руководителям разведывательно-диверсионных групп и отрядов, действовавших в Белоруссии, присвоено высокое звание Героя Советского Союза.

*Геннадий СЕНЮКОВ, представитель группы общественных связей УКГБ Республики Беларусь по Минску и Минской области.*

■ Лёсы людскія

# ДЗВЕ СЯМ'І

Пажылыя людзі з вёскі Крупіца Мінскага раёна добра памятаюць Канстанціна Іосіфавіча Вайцяхоўскага. Да вайны ён працаваў у мясцовым калгасе "Новы быт". У вольны час наведваў вясковую хату-чытальню, быў актыўным удзельнікам гуртка мастацкай самадзейнасці. Я таксама крыху памятаю гэтага чалавека. Мне было пяць гадоў, калі маці брала мяне з сабой на канцэрты крупіцкіх артыстаў. Канстанцін Іосіфавіч любіў тэатральныя пастаноўкі і па-майстэрску выконваў галоўныя ролі. Асабліва атрымліваліся ў яго сатырычныя нумары...

У першыя дні вайны Вайцяхоўскі пайшоў на фронт. Пацалаваўшы двух сыноў і пяцёх дачок, абняўшы жонку, ён цёпла і з надзеяй сказаў:

— Расціце, дзеткі, а ты, Зоська, чакай мяне. Я абавязкова вярнуся.

І Зоська адна гадавала семярых дзяцей, вельмі чакала мужа. Але вясной 1945 года атрымала паведамленне: "Ваш муж прапаў без вестак..."

Выгадавала Соф"я Лук"янаўна Вайцяхоўская сыноў і дачок. Толькі адна яна ведала, як гэта было цяжка. Знемаглася, стамілася. І толькі адчуўшы мацярынскім сэрцам, што дзеці цвёрда сталі на ўласныя ногі, памерла — у 1978-м. Неўзабаве пасля смерці маці трагічна загінула старэйшая дачка Маргарыта.

Аднак не стану стамляць чытача здагадкамі: які ж лёс напаткаў Канстанціна Іосіфавіча Вайцяхоўскага, што з ім сталася? У вайну ён застаўся жывы. Летам 1944 года трапіў у палон. Па дарозе ў Германію спрабаваў уцячы з цягніка разам са сваім аднавяскоўцам Антонам Зубовічам. Апошняму гэта ўдалося, а Вайцяхоўскага даставілі ў адзін з германскіх канцлагераў.

У пераможным 1945 годзе яго вызваліла амерыканская армія. Перад ім паўстала праблема: куды падацца далей? Па чутках было вядома, што такіх, як ён, палонных на радзіме адпраўляюць у турму ці высылаюць у Сібір. Новыя знаёмыя параілі яму застацца ў Германіі. І ён выбраў апошняе.

Амаль два гады шукаў работу, перабіваючыся выпадковымі заработкамі. І ў рэшце рэшт яму пашанцавала — пазнаёміўся з немкай Эльзай, а потым і ажаніўся. У яе ў час вайны загінуў на фронце муж. Яна засталася з дваімі дзецьмі. А ў хаце патрэбен быў гаспадар. Эльза аказалася вельмі здольная да камерцыі. Неўзабаве з яе дапамогай Канстанцін Іосіфавіч стаў уладальнікам невялічкага начнога рэстарана.

Пайшлі дзеці. У 1947 годзе нарадзіўся сын Віктар. Гэтае імя даў яму бацька ў гонар свайго старэйшага беларускага сына. Віктар-малодшы, як у думках называў яго бацька, рос спакойным, кемлівым хлапчуком і апраўдаў надзеі бацькоў. Ужо ў 20-гадовым узросце стаў уладальнікам аднаго з мясцовых рэстаранаў. Доўгімі вечарамі ён уважліва слухаў успаміны бацькі аб далёкай Крупіцы, былой сям"і. Але маўчаў, бо добра разумеў, што бацька баіцца вяртацца на радзіму.

Услед за Віктарам у Эльзы нарадзілася яшчэ сямёра дзяцей. Сям"я была дружная, хоць і шматлікая. Падгадаваўшы дзяцей, у 1974 годзе ва ўзросце 69 гадоў памёр Канстанцін Іосіфавіч Вайцяхоўскі, так і не выехаўшы з Германіі. Праз пяць гадоў не стала і Эльзы.

Пасля смерці бацькоў Віктар-малодшы неаднаразова спрабаваў наладзіць сувязь са сваімі беларускімі братамі і сёстрамі. Але доўгі час гэтыя спробы былі няўдалымі. У 1980 годзе ён наведаў па турысцкай пуцёўцы Ленінград. Даў адтуль тэлеграму ў Крупіцу: прасіў каго-небудзь з беларускіх братоў і сясцёр прыехаць у горад на Няве для сустрэчы з ім. На жаль, гэтая сустрэча не адбылася.

І вось нарэшце ў пачатку гэтага года, а дакладней — у студзені, ён наведаў радзіму бацькі. Цёпла яго сустрэлі беларускія браты і сёстры, якія жывуць зараз у Мінску і маюць уласныя кватэры і сем"і. Пагасцяваўшы ў Віктара, Барыса, Эмы, Галі, Ларысы і Тамары, перад ад"ездам у Германію Віктар-малодшы пабываў у Крупіцы, дзе наведаў магілу першай жонкі бацькі і Маргарыты. Пры развітанні паабяцаў зноў прыехаць. Але ўжо са сваімі нямецкімі братамі і сёстрамі.

*Георгій ЛЯНКЕВІЧ.*

■ Вось так і жывём

# Яны клічуць маму па - беларуску

— І ты будзеш крычаць «мамачка» па-расанску, — герой папулярнага тэлесерыяла дакладна спрагназіраваў сітуацыю. У пакутах чалавек прыходзіць на гэты свет. Нібыта ўсёмагутная прырода жаночым болем і крыкам папярэджвае нас аб каштоўнасці яшчэ аднаго жыцця, яшчэ адной маленькай зорачкі ў бясконцых прасторах Сусвету. Але калі ступень цывілізаванасці грамадства вызначаецца яго адносінамі да жанчыны і, безумоўна, да гэтых самой прыродай наканаваных пакут, то мы з вамі жывём у перыяд першабытнага варварства. І той, хто па роду сваёй дзейнасці ці ў сілу жыццёвых абставін сутыкаўся з гэтай праблемай, не ўпікне аўтара ў перабольшанні.

Пры любым крызісе, які б зацяжны ён ні быў, любая ўлада ў любым цывілізаваным грамадстве знаходзіць сродкі для захавання генафонду нацыі. Нашай жа будучыні пагражае не толькі Чарнобыль — пагражае адсутнасць паслядоўнай дзяржаўнай палітыкі ў галіне мацярынства і дзяцінства. Дазвольце адзін настальгічны ўздых у адрас застойных часоў. Якраз тады з"явіліся на свет дзеці аўтара гэтых радкоў. Для нас,стаўшых маці ў сямідзесятых, не існавала паняцця дэфіцыту ў медустановах самага элементарнага — бінтоў, марлі, ваты, шпрыцаў і іголак для ін"екцый. Каб папярэдзіць непажаданую цяжарнасць, урачы-гінеколагі нас літаральна прымушалі карыстацца кантрацэптывамі. У аддзяленнях мы іх атрымлівалі бясплатна, у аптэках яны каштавалі капейкі. Сёння ж праблема планавання сям"і — прывілея выбраных, тых, каму па кішэні набыць у аптэцы сціплы пакецік тысяч гэтак за пяцьдзесят. І гэта яшчэ па мінімуму. Кошт некаторых сродкаў, прызначаных для планавання сям"і і рэгулявання нараджальнасці, даходзіць да паўмільёна «зайцоў». Думаецца, тое, што стала грамадскай праблемай, не можа быць прадметам цнатлівай размовы на старонках спецыялізаваных медыцынскіх выданняў. Самае дзіўнае, што ўрачы-гінеколагі да гэтага часу застаюцца самымі сціплымі прадстаўнікамі сваёй прафесіі. І калі б выпадак не прывёў мяне ў Маладзечанскі гарадскі радзільны дом, я таксама меркавала б аб сітуацыі на дылетанцкім, абывацельскім узроўні.

Радзільны дом — гэта не тое, як думаюць некаторыя, месца, куды прывозяць раджаць. Гэта лячэбная ўстанова з поўным комплексам медыцынскай дапамогі жанчыне — амбулаторнай, стацыянарнай, кансультацыйнай, лячэбнай... Сюды ўваходзяць і жаночая кансультацыя, і радзільныя аддзяленні, і гінекалогія, і нават аддзяленне рэанімацыі для нованароджаных. І вось такі набор паслуг аказваецца жаночаму насельніцтву 100-тысячнага горада на плошчах тыпавой участковай бальніцы, разлічанай на 100 ложкаў. Дваццаць гадоў назад, калі ён адкрываўся, гэтых маштабаў, магчыма, і хапала. Сёння ж... Давайце паслухаем галоўурача Аляксандра Леанідавіча Лавіта:

— Па існуючых санітарных нормах на адзін ложак у пасляродавай палаце павінна прыпадаць сем квадратных метраў. У нашым жа радзільным доме на васемнаццаці квадратных метрах размяшчаюцца сем ложкаў. Колькі я працую ў Маладзечне, а гэта каля дваццаці гадоў, гаворка ідзе аб прыбудове. Ужо быў праект. Ужо дабіліся ўключэння пытання ў парадак дня сесіі гарсавета. Але на гэтым усё і скончылася. Як, дарэчы, многае ў нашым цяперашнім жыцці...

Сапраўды, аб якой прыбудове можа весціся гаворка, калі радзільны дом іншы раз не мае сродкаў, каб аплаціць паслугі пральні, набыць неабходныя прадукты для харчовага блока. Пры мне Аляксандр Леанідавіч набіраў нумар тэлефона фінансавага аддзела гарвыканкома. Там абяцалі зрабіць усё магчымае. А мне падумалася: якое ж непрадказальнае стала наша жыццё! Замест сацыялістычнага планавання мы аддалі перавагу стыхіі рынку. А чаго дабіліся? Таго, што не можам планаваць нашы дзеянні нават на дзень наперад. Калі раней гарадскі бюджэт разлічваўся на год наперад і гэта былі стабільныя, эканамічна абгрунтаваныя лічбы, тады любы бюджэтнік у сябе на месцы рабіў дэталёвую раскладку выдзеленых сродкаў. Сёння ніхто не ведае, колькі праз месяц будзе каштаваць перавязачны матэрыял, вострадэфіцытны шыўны матэрыял, шпрыцы... Дарэчы, не многія, напэўна, ведаюць, што сёння ў радзільных дамах адменены ўсе планавыя аперацыі. Не хапае не толькі кетгута, але і наркатычных сродкаў для анестэзіі. Своечасова не прааперыраваць — значыць, пакінуць жанчыну з нейкай яўнай паталогіяй у надзеі, што некалі яна дасць аб сабе знаць. Крыўдна і горка: адмаўляючы жанчыне-маці ў дапамозе, мы хочам мець здаровае патомства, захаваць у грамадстве тую генетычную эліту, якая забяспечыць у будучым развіццё беларускай нацыі.

Мы не можам сёння завозіць кетгут з Казані. Патрэбны расійскія рублі. Радзільны дом — не вытворца. Пры ўсім стараннi персаналу валюты сваёй, з якой можна выйсці на рынкі блізкага і далёкага замежжа, мець не можа. А далікатны чалавечы матэрыял, з якім тут працуюць, патрабуе немалых расходаў. Ёсць камерсанты, якія б згадзіліся з дабрачынных меркаванняў браць спадарожны тавар для гінекалагічных і акушэрскіх працэдур. Аляксандр Леанідавіч Лавіт у прынцыпе знайшоў людзей, якія маглі б прывозіць наркатычныя сродкі з Санкт-Пецярбурга, шыўны матэрыял з Казані. Але законы мытні больш чым суровыя. Напэўна, на ўзроўні ўладных структур праблема гэтая вырашальная. Але пакуль за яе ніхто як след не браўся, жанчыны цярпяць боль пры абортах і выкідышах, пры ўскладненнях пасля родаў... Не на выспе мы — сярод людзей жывых. Зямля чуткамі поўніцца. Не толькі Ала Пугачова адпраўляла дачку раджаць за мяжу. Ніводная жонка больш-менш «высокага» начальніка не пакутавала, шукаючы і не могучы знайсці забыцця ад слабай дозы наркотыку і не валялася затым у шматлюднай палаце, дзе ўсёй жыццёвай прасторы — толькі твой уласны ложак, куды нават кветкі не прынясеш...

Не хочацца хваляваць чытача апісаннем нашай жорсткай рэчаіснасці. Адно скажам: надзейней будзе адчуваць сябе жанчына, прыйшоўшы раджаць з усім сваім. Асэнсаваць гэта цяжка, звыкнуцца з такой з"явай — яшчэ цяжэй. Тупік, у які прывяла нашу медыцыну недальнабачная палітыка вярхоў, мае пад сабой не толькі эканамічную, але і сацыяльную аснову. Прапагандуемая сёння сродкамі масавай інфармацыі сексуальная рэвалюцыя ўварвалася ў наша жыццё нечакана. Адсюль — ранняе палавое жыццё, ранняя цяжарнасць, раннія аборты... І як вынік — усплёск гінекалагічных, венерычных захворванняў, родавая паталогія. Дакладна вядома: хворая маці не можа нарадзіць здаровае дзіця. Загадчык радзільнага аддзялення Вілейскай цэнтральнай раённай бальніцы Юрый Аляксандравіч Аляксандраў расказвае, што ўжо не лічыцца рэдкасцю і надзвычайным здарэннем, калі ў роды ідзе жанчына з сіфілісам. І па чалавечаму закону ёй нельга адмовіць у дапамозе. Але ўявіце сабе рызыку, якой падвяргаюцца ўсе астатнія: урач, акушэр, пацыенты. Да гэтага часу ў вобласці не адкрыты спецыяльны радзільны дом для жанчын з венерычнымі захворваннямі. У Мінску падобных пацыентак прымае адна з гарадскіх клінік, але дай ёй бог са сваім кантынгентам справіцца.

Жыццё кідае людзей у крайнасці. Што б вы сказалі пра жанчыну, у якой урачы ўстанавілі невылечную хваробу будучага дзіцяці, а яна наадрэз адмовілася спыняць цяжарнасць. Яна ведае, што дзіця народзіцца псіхічна хворае, з фізічным калецтвам. Што яно будзе пакутаваць на гэтым свеце і вымушаць пакутаваць яе... Між тым, прычына простая: будучая маці хоча мець у Маладзечне пастаянную прапіску і жылплошчу. Таму патрабуе даведку аб цяжарнасці... Восемдзесят пяць працэнтаў жанчын, якія ідуць у роды, маюць тую ці іншую паталогію, нараджаюць фізічна аслабленых дзяцей. Вось чаму ў Маладзечанскім раддоме, нягледзячы на цеснату, знайшлі магчымасць стварыць аддзяленне рэанімацыі для нованароджаных. І для яго таксама медыкаментаў у абрэз. Ну нeяк жа трэба ратаваць тое, што яшчэ засталося! Не сакрэт, што многія раёны Мінскай вобласці ўжо аднесены да разраду вымiраючых. А пакуль выжыць нам дапамагаюць... немцы. І мясцовыя прадпрымальнікі.

Асабістая камунікабельнасць Лавіта — гэта адрамантаваны аўтамабіль /фірма «Тэхнавест»/, папярэдняя аплата аптова-гандлёвай базе за цукар для пацыентак /фірма «БОМАР»/... Сто мільёнаў рублёў змог выдзеліць сёлета гарадскі бюджэт на рамонт устаноў аховы здароўя горада. Што дастанецца радзільнаму дому? Маладзечна можа пахваліцца належным чынам пастаўленай службай дародавай ультрагукавай дыягностыкі. А трымаецца яна між іншым на энтузіязме і шматгадовым вопыце людзей. Сам па сабе апарат даўно ўстарэў. Кошт новага — 600 мільёнаў. Той, хто мае вушы, як кажуць, няхай пачуе...

Калі бургамістр Эслінгена, нямецкага горада, з якім у Маладзечна трывалыя сувязі, ехаў у Беларусь, ён у сваім дарожным чамадане прывёз медыцынскія пальчаткі, лейкапластыр, процігрыбковыя прэпараты. Адтуль, па розных крыніцах, часта з аказіямі, раддом атрымлівае шыўны матэрыял, анальгетыкі.

— Калі нас не разумее дзяржава, трэба нешта рабіць самім, — гэта жыццёвае крэда Аляксандра Леанідавіча Лавіта. А між іншым, ва ўсіх нармальных дзяржавах дыпламаваны доктар лечыць. І ніхто не падумае выкарыстоўваць яго яшчэ як забеспячэнца.

Калі ў евангелісцкую абшчыну нямецкага горада Дэтмальда прыходзіць чарговае пісьмо з Маладзечна са справаздачай аб тым, як дайшла дапамога, у чым яшчэ вострая праблема, яно вывешваецца ў кірсе на самым відным месцы. А пастар звяртаецца да сваёй паствы з пранікнёнымі словамі: «Людзі добрыя, браты і сёстры, не адвярніцеся, не пакіньце ў бядзе божыя стварэнні...» Магчыма, яны адчуваюць свой абавязак перад намі, хутчэй жа за ўсё — гэта шчырае памкненне веруючых душ. Але так ці інакш — сорамна. За сістэму, за парадкі, за ўладу, за саміх сябе. Пагарэльцу не дапамагаюць двойчы. Так і мы. Нейкі шанц на выжыванне нам далі адтуль, з-за мяжы. Ды толькі хутка зніцее гэты ручаёк. І не дазволяць нам быць нахлебнікамі ля чужога катла.

Ва ўсіх нашых частых размовах аб дзяржаўнасці беларусаў, росце нацыянальнай свядомасці нешта не чуваць слоў аб нацыянальным выжыванні, выжыванні ў натуральным, фізічным сэнсе гэтага слова.

Не па-нямецку і не па-расейску — па-беларуску крычаць жанчыны за зачыненымі дзвярыма радзільных залаў. Вам не балюча чуць іх крык?

*Марыя КУЗАЎКІНА.*

